А 36633 Dб17/23

Цана № 25 грош. Змагайся як мага — зможаш!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Нова-сьвецкая 10-6. Рэдакцыя адчынена што дня ад 11 да 1 г. апрача сьвят.

# ПОКЛІЧ

ДВУТЫДНЁВІК

Падпісная плата з перасылкаю:
на 1 мес. 50 грош.
на 3 мес. 1 з. 50 гр.
на 1 год 6 злот.

Орган Беларускай Партыі Соцыялістаў-Рэвалюцыянэраў Заходняй Беларусі.

№ 1 | Вільня, Чэцьверг 24 лістапада 1927 г. | Год I

## Ад Рэдакцыі.

Таварышы сяляне і работнікі.

Выпускаючы ў сьвет першы нумар часопісі — органу Беларускае Партыі Соцыялістаў-Рэвалюцыянэраў Рэдакцыя не падае ў ім зьместу партыйнае праграмы дзеля таго, што праграма наша засталася такой самай, якой была і дасюль, а прыймаючы пад увагу, што яна была ў сваім часе распаўсюджана па ўсёй Беларусі Рэдакцыя лічучыся з даражынёй месца, ня можа надрукаваць яе у першых нумарох.

## *Вільня 24 лістапада 1927 г.*

Стан ў якім апынуліся працоўныя масы Беларусі, пасьля цэлага раду экспэрымэнтаў над імі, як на Захадзе, гэтак і на Ўсходзе з боку ўсіх калёраў ад чорнага да чырвонага, ёсьць катастрафічны. У рэзультаце шэсьці гадовае „працы“ беларускіх палітычных цэнтраў — селянін стаіць перад зьнішчанай вайной і налогамі гаспадаркай, работнік перад зачыненымі дзьвярыма фабрыкі. І гэта ўсё не перашкаджае беларускім палітычным партыям усялякіх напрамкаў спакойна глядзець на фізычнае і, што за гэтым ідзе, і духоўнае выміраньне 12 мільённага народу. Не перашкаджае ім далей вясьці паміж сабой безсенсоўную барацьбу, друкаваць у сваіх органах рожную брахню, да таго што трэба спачатку накладаць рукавіцы перад тым як узяць у рукі беларускую газэту. Большага ідэйнага дый маральнага раскладу беларускае інтэлігэнцыі не відаць было на працягу ўсяе гісторыі Беларусі. Калісь перад абліччам небясьпекі беларускіе духоўные правадыры ўмелі лучыцца, умелі забыць усе асабістыя друг да друга прэтэнзіі, каб супольнымі сіламі бараніць супольную справу.

Сяньня „духоўные правадыры“ беларускага народу замест таго каб згуртавацца, шукаюць сабе хаўрусьнікаў у радох ворагаў беларускага працоўнага народу, не спыняючы барацьбы паміж сабой — наадварот завастраючы яе.

А „сяньня“ — момант падыйшоў такі, што беларускай інтэлігенцыі — раней ці пазьней прыйдзецца даць справаздачу — што яна ў гэты час рабіла.

Які-ж гэта момэнт? Чаму сяньня, а ня ўчора і не заўтра трэба напружаньня ўсіх сваіх сілаў, каб, ня кажучы аб захапленьні, устаяць на тых пазыцыях, якія з гэтакім трудом працоўныя масы здабылі рэвалюцыйным высілкам 1917 году.

А вось чаму. Усясьветны, капітал атрымаўшы сьмяротную рану ў 1917 годзе, сяньня ўжо ачуняў гэтак, што ўжо шыкуецца да контр-атакі. На актыўнае выяўленьне волі працоўных масаў да соцыяльнага і нацыянальнага вызваленьня ён адказвае ўжо не

Lietuvos TSR Centr. Biblioteka Mokslų Akademija

старымі мэтодамі трымаць на ланцугу гэтую волю пры помачы парлямэнтарызму, дзе ён, карыстаючыся несьвядомасьцю працоўных масаў, трымаў уладу ў сваіх руках, але скідае з сябе ўжо маску псэўда-лібэралізму і дэмократызму, ды пачынае тасаваць сьледам за бальшавікамі новы мэтод панаваньня — дыктатуру. Калі буржуазія рукамі работнікаў і сялян здабывала ўладу, дык яна змагалася за дэмократыю проціў адзінадзяржаўя. Сяньня, калі ўлада ўжо знаходзіцца ў яе руках, яна заганяе работніка і селяніна ў падпольле, і ў сыстэму ўрадаваньня ўкладае гэтыя-ж самыя мэтоды, проціў каторых яна ўчора вяла барацьбу.

Адзіным на гэта адказам павінна быць з нашага боку згуртаваньне ўсяго працоўнага народу, каб супольнымі сіламі бараніцца проціў замаху на нашыя правы.

На беларускім грунце спробы такога аб'еднаньня ўжо робяцца.

Але, адначасна з гэтым, кожны селянін і работнік, павінен зразумець, што сіла наша толькі ў еднасьці і дзеля гэтага, рашуча адкідаючы ўсялякія спробы розных канкуруючых паміж сабой групаў, абаламуціць іх, харошымі лёзунгамі, павінен далучыцца да агульнага соцыялістычнага фронту.

Памятуйце, таварышы, што хаўрусьнікамі нашымі могуць быць і будуць толькі селянін і работнік і дзеля гэтага рашуча адкідайце ўсялякіе спробы ашукаць Вас пры помачы беларускага друкаванага слова рожным палітычным гэшефтмахерам.

# Соцыялістычная Ліга Новага Усходу.

Аснаўным заданьнем Лігі ёсьць стварэньне ідэйных і маральна-палітычных абставінаў, якія нямінуча патрэбны для мірнага вырашэньня нацыянальнай праблемы на Ўсходзе Эўропы.

Неабходнай падвалінай прасякненьня ў сутнасьць гэтае праблемы Ліга прызнае пасьлядоўнадэмакратычную і запраўдна соцыялістычную выходную пазыцыю ў яе вырашэньні.

Таму Ліга выходзіць з гэткіх засадаў: 1) Поўнай волі нацыянальнага самаазначэньня і рашучага адкіданьня ўсялякага панаваньня аднэй нацыі над іншаю; 2) раўнапраўства і раўнавартнасьці ўсіх нацый, бяз розніцы вялікія яны ці малыя, гістарычныя ці не гістарычныя і 3) заклік усіх гэтых нацый да супольнай арганізаванай творчасьці агульналюдскай культуры.

Згодна з гэтымі засадамі Ліга прызнае:

1) права кожнай нацыі, складаючай на акрэслянай тэрыторыі пераважную большасьць, ўконстытоўвацца ў самастойную, незалежную дзяржаву, у сваіх прыродных этнаграфічных межах, пры ўмове выразнага выяўленьня волі да гэтага з боку большасьці ўсяго насельніцтва адпаведнай тэрыторыі;

2) права кожнай нацыянальнай групы, нездавальняючай паказаным варункам, на забязпечэньне свайго вольнага культурна-нацыянальнага развіцьця шляхам стварэньня нацыянальных і тэрыторыяльных публічных саюзаў, маючых правы юрыдычнай асобы і прымусовую ўладу ў межах сваей кампэтэнцыі;

3) права кожнай асобы, дасягнушай грамадзкай поўналетнасьці вольна азначаць сваю прыналежнасьць да тэй ці іншай нацыянальнасьці;

4) права кожнай асобы на нічым не абмежанае пашырэньне сваей мовы і культуры, на пашырэньне свайго нацыянальнага прозэлітызму і на стварэньне, дзеля гэтае мэты, адпаведных прыватных арганізацый і нацыянальных саюзаў;

5) маральна-палітычны абавязак усіх гэтых асобаў і арганізацый ствараць сваім нацыянальным і культурным развіцьцём падваліны салідарызованых і сацыяльных узаімаадношэньняў усюды, дзе зацікаўлянасьць і правы адных нацыянальных групаў сутыкаюцца з зацікаўлянасьцю іншых.

У мэтах рэгуляваньня міжнацыянальных узаемаадношэньняў на падвалінах пляновага ўмяркаваньня іх незалежнай матэрыяльнай і духоўнай жыцьцяздатнасьці, ухіленьня з іх вузкага нацыянальнага эгаізму, імпэрыялізму ды шавінізму. Ліга дамагаецца:

1) вырашэньня ўсіх міжнацыянальных і міждзержаўных канфліктаў шляхам мірнае дагоды, а пры яе недасягненасьці—шляхам абавязковага арбітражу, або шляхам перадачы канфлікту на вырашэньне асобнай вышэйшай міжнароднай установы;

2) міжнароднай гваранты бязпечнасьці асобных дзяржаў і незачэпнасьці іх тэрыторыі ад самавольных пасягненьняў суседзяў іх;

3) магчыма больш поўнага і агульнага разброеньня і поўнай дэмілітарызацыі прымежных зонаў, асабліваж—тых мяйсцовасьцяў, якія могуць даць асаблівую перавагу аднэй дзяржаве ў сэнсе нападу яе на другую;

4) міжнароднай гваранты правоў нацыянальных меншасьцяў супроць магчымых пасягненьняў з боку пераважаючых нацый;

5) поўнай інтэрнацыяналізацыі пунктаў і зонаў захопленьне якіх у выключнае карыстаньне паасобных дзяржаў і нацыянальнасьцяў можа давясьці да манапольнага стану, супярэчнага зацікаўлянасьці ўсей людзкасьці (пралівы, каналы ўсясьветнага значэньня ды інш.);

6) ўстанаўленьня асобнымі дагодамі або вышэйшых міжнародных установаў адумысных пра-

воў карыстаньня (міжнародных сэрвітутаў) для зацікаўляных—асабліваж малых-народаў у адношаньні да тых пунктаў і зонаў суседніх дзяржаўных тэрыторый, якія зьяўляюцца крынічнымі пазыцыямі ў адношэньні да іх культурнага і гаспадарчага разьвіцьця (доступ да мора, транзітныя зоны ды інш.);

7) скасаваньня абмежаньняў волі руху і быцьця грамадзян адных дзяржаў у межах іншых ды міжнароднага рэгуляваньня пытаньня іміграцыі дзеля карысьці агульна-людзкай роўнасьці і поступу;

8) агульнага ўраўнапраўненьня чужынцаў у грамадзкіх і маетных правох з грамадзянамі адпаведных дзяржаў.

У рэшце, маючы на ўвазе тэндэнцыю ўнівэрсалізацыі людзкай культуры, рост міжнародных сутыкаў і арганізацыі супрацоўніцтва, а таксама адпаведнага ўзмацаваньня, ды пашырэньня міждзяржаўных сувязяў і аб'еднаньняў, Ліга ставіць на чаргу:

1) разьвіцьцё ўсебаковага ўзаемнага азнаёмленьня і разуменьня паміж народамі, асабліва-ж тымі, якія маюць ад спадчыны або ў якіх узьнікаюць у цяперашчыне варожасьць і антаганізм зацікаўлянасьці і настрояў;

2) падтрыманьне ўсіх міжнародных, дзяржаўных і грамадзкіх аб'еднаваючых пачынаньняў у галіне культурнай, навуковай, гаспадарчай ды інш.;

3) прапаганду магчыма большага ўзгадненьня законадаўства рожных краёў ува ўсіх галінах жыцьця, дзе гэта ёсьць мэтазгодна і магчыма без парухі асаблівасьцяў зацікаўленасьці мясцовага жыцьця і нацыянальных культур;

4) дапамога ў выпрацоўваньні ўсё больш і больш распаўсюджанай сыстэмы нормаў, рэгулюючых міжнародныя суадносіны і ствараючых моцны агульналюдзкі праўны парадак;

5) стварэньне на падвалінах вольнае дагоды інтэгральных міждзяржаўных і наддзяржаўных саюзаў і аб'еднаньняў з дзяржавамі, якія зьвязаны тэрыторыяльнай блізкасьцю і агульнасьцю культурнай, гаспадарчай і палітычнай зацікаўленасьці ў якасьці прыроднай ступені разьвіцьця ў кірунку да Аб'яднаных Штатаў Эўропы і ўсяго сьвету з захаваньнем максымальнай нацыянальна-дзяржаўнай самастойнасьці і волі кожнай;

6) рэарганізацыя Лігі Нацыяў адпаведна з засадамі гэтае плятформы, пры ўмове:

I. уваходжаньня ў яе склад на роўных правох і падвалінах усіх дзяржаваў і народаў,

II. у запраўднай яе дэмакратызацыі,

III. прадстаўніцтва ў ёй самых народаў, а не ўрадаў,

IV. забясьпечаньня за пастановамі рэарганізаванай Лігі Нацыяў абавязковай сілы.

У справе мірнага вырашэньня нацыянальнай праблемы на Усходзе Эўропы—Ліга надае асаблівую вагу долі народаў, якія сёньня ўключаны ў склад СССР.

Дзеля іх карысьці яна дамагаецца:

1) запраўднага зьдзейсьненьня засадаў нацыянальнага самаазначэньня і волі, якія сыстэматычна топчуцца бальшавіцкай уладай, у супярэч яе ўласным дэкларацыям і пастановам саюзнай канстытуцыі;

2) прызнаньня „радавых рэспублік", якія сёньня зьяўляюцца дэкларацыйна-поўнапраўнымі сябрамі Радавага Саюзу (Расейская фэдэрацыя: Украіна, Беларусь, Грузія, Арменія, Азэрбэйджан, Узбэкістан і Туркмэністан) незалежнымі дзяржавамі, праваможнымі, кожная за сябе, вырашаць усенародным галасаваньнем, у абставінах забясьпечываючых запраўдную волю, пытаньня аб захаваньні на будучыну тэй ці іншай саюзнай сувязі або аб поўным яе спыненьні;

3) прызнаньня, што рэспублікі горскіх народаў: Башкірдыстан, Бурацкая і Алаш, ужо раней выявілі сваю волю да нацыянальнага быцьця і, што пашырэньне іх правоў роўнабежна з агульным іх культульным і гаспадарчым узростам неўзабаве паставіць іх у аднолькавае становішча з дзяржавамі, якія сёньня ўжо зьяўляюцца непасрэднымі сябрамі саюзу;

4) прызнаньня за горскімі народамі Каўказу ды іншымі народамі, якія знаходзяцца ў аналёгічным становішчы, калі яны таго пажадаюць, права аб'еднацца ў саюз рэспублік ці саюзную рэспубліку на тых-жа самых засадах;

5) прызнаньня за ўсімі іншымі народамі, уваходзячымі ў склад Расейскай Фэдэрацыі ці ў іншыя з пералічаных рэспублік, ці ў якасьці аўтаномных адзінак, ці ў якасьці нацыянальных меншасьцяў, права нацыянальнага самаазначаньня;

6) прызнаньня за адзіны нармальны спосаб рэалізацыі правоў на самаазначэньне, ліквідацыі папярэдніх і ўстанаўленьня новых дзяржаўных сувязяў—палюбоўнай дагоды зацікаўляных старон, а пры няўдачы гэткае дагоды—арбітражу ці перадачы пытаньня на вырашэньне вышэйшай міжнароднай установы;

7) стварэньня з памянёных незалежных рэспублік іх наддзяржаўнага аб'яднаньня, Вольнага Саюзу, гэтых рэспублік на падвалінах: а) салідарызацыі іх міжнароднай палітыкі, б) узаемнай гваранцыі незалежнасьці межаў усіх сяброў Саюзу шляхам адумыснай вайсковай канвэнцыі, в) узаемнай гваранцыі агульным статутам правоў нацыянальных меншасьцяў, г) мытнага і тарыфнага саюзаў, д) народна-гаспадарчага і фінансавага супрацоўніцтва сяброў Саюзу ў прадпрыемствах, адпавядаючых іх узаемнай зацікаўленасьці і перавышаючых сілы паасобных сяброў Саюзу, е) вырашэньня пытаньняў, якія датычаць усіх сяброў Саюзу, агульна-саюзнай канфэрэнцыі, а ўсіх іншых пытаньняў — зацікаўлянымі рэспублікамі, ж) вырашэньня ўсіх спрэчак між рэспублікамі Саюзным Трыбуналам, пастановы якога абавязковы;

8) Усталеньня нацыянальнай і тэрыторыяльнай еднасьці народаў, разарваных паміж рознымі дзяржавамі, як напрыклад: украінскага, беларускага, армянскага ды інш.

Што датыча нацыянальных дзяржаваў, не ўваходзячых у склад СССР. — Польшчы, Фінляндыі, Латвіі, Літвы і Эстоніі—то Ліга дамагаецца: 1) прызнаньня і на будучыну іх неадойманага права на поўную незалежнасьць у этнатрафічных межах: 2) перагляд у сьцісла-праўных формах межаў, наколькі яны ўсталяваліся на падставе вайсковай перавагі з нарушэньнем нацыянальнага прынцыпу; 3) ўрэгуляваньня ўсіх спрэчных пы-

таньняў як паміж імі самымі, гэтак і з другімі суседзямі, шляхам новых мірных перагавораў памагчымасьці на агульнай усходняй канфэрэнцыі, з прадстаўніцтвам усіх зацікаўленых нацый; 4) мэтазгоднасьці і пажаданьня ўваходжаньня іх (а таксама і другіх дзяржаваў, якія культурна, гаспадарча ці палітычна цягнуцца да аграрнага ўсходу) у склад Вольнага Саюзу Рэспублік Усходу Эуропы.

Палітычнымі умовамі мірнага вырашэньня нацыянальнага пытаньня Ліга прызнае:

I. Прабуджаньне палітычнай актыўнасьці шырокіх працоўных сялянскіх і работніцкіх грамад на Усходзе Эуропы;

II. Стварэньне агульнага фронту сацыялістычных партый і групаў (усіх кірункаў і нацыянальнасьцяў) у мэтах змаганьня за зьдзейсьненьне плятформы Лігі;

III. Рашучае раскрыцьцё белага і чырвонага імпэрыялізму, вялікадзержаўніцтва, шавінізму і ваяўнічага нацыяналізму, чым бы яны ня прыкрываліся ды прапаганда міжнароднай салідарнасьці працоўных розных нацый;

IV. Урэшце, як найхутчэйшае ўстанаўленьне на ўсіх абшарах Ўсходу Эўропы палітычнай волі і ўзапраўдна-дэмакратычных установаў.

**Сябры партыі Соц.-Рэв. (Расея):**
*В. Чэрноў, В. Гурэвіч, Гр. Шрэйдэр, Ф. Мансьветаў, Аўг. Шрэйдэр.*

**Сябры ўкраін. пар. Соц.-Рэв. (Украіна):**
*М. Шапавал, Н. Грыгор'еў, М. Мандрыка, С. Доўгаль, Б. Залеўскі.*

**Сябры белар. пар. Соц.-Рэв. (Беларусь):**
*Т. Грыб, М. Чарнэцкі.*

**Сябры бел. п. Соц.-Рэв. Фэдэр. (Беларусь):**
*Б. Захарка, П. Крэчэўскі.*

**Сябры армян. рэв. п. Дашнакцуцюн (Арменія):**
*Н. Нікагасьян, О. Акінян.*

16. VII. 1927 г.

# Наша змаганьне.

Рэвалюцыя ня толькі ўскалыхнула шырокія грамады працоўных Беларусі, ня толькі дала штуршок да усьвядомленьня сябе нацыянальна, як самаістную асабістасьць, але і паставіла перад імі акрэсьленыя ідэалы сацыяльнай і нацыянальнай роўнасьці ды справедлівасьці. За дзесяць даўгіх гадоў ў сьвядомасьці передавой інтэлігэнцыі ды ў гушчы сялян і работнікаў ўкаранілася паняцьця неабходнасьці, нямінучасьці актыўнага змаганьня за гэтыя ідэалы.

Змаганьне адбывалася ўвесь час, прыймаючы то вострыя формы шырокіх сялянскіх паўстаньняў, то формы ляяльнага да улады „культурніцтва", то ў відве падпольнага змаганьня, праз нелягальныя арганізацыі (сялянскі саюз, партыя беларускіх эс-эраў, беларускай соцыялістычнай „Грамады").

Ніякія спосабы камуністычнай ахранкі не маглі і нямогуць выкараніць „крамолу" — імкненьне беларускіх працоўных грамад да лепшага жыцьця, да зьнішчаньня нацыянальнай няроўнасьці і сацыяльнага вызыску, пакуль у ССРР. існуюць карэньні зла: рускае вялікадзяржаўніцтва, дыктатура над работніцкай клясай і нэпманска-камуністычныя адносіны, называемыя афіцыяльна „дзяржаўным соцыялізмам".

Нізавы вызвольны рух за апошні час насіў характар змаганьня за беларускую культуру (школу, мову і г.д.). Узапраўдная беларусізацыя грамадзкага жыцьця адбывалася пад бязупынным націскам народных грамад, выклікаўшы, урэшце, і афіцыяльна зьдзейсьняемую уладай „беларусізацыю" маскоўскіх чыноўнікаў.

Па апошнім весткам, атрыманых намі з Радавай Беларусі, загнаны бальшавіцкім тэрарам у глыбокае падзямельле і у значнай меры распыляны беларускі соцыялістычны рух ізноў кансалідуецца, папаўняючы свае кадры маладымі сіламі.—Аб'яднаўшыся на плятформе рэвалюцыйнага соцыялізму, беларускія сацыялісты—прынялі найменьне „Беларуская Сацыялістычная Грамада" — найменьне першай рэвалюцыйнай арганізацыі на Беларусі, якая змагалася з царызмам пачынаючы з 1903 г. Цяпер адбудоўваецца арганізацыйны апарат, існуе ўжо некальві гурткоў і вядзецца прапагандная праца сярод сялянскай і работніцкай моладзі.

# Апошнія навіны.

## ПЕРАМОГА СОЦЫЯЛІСТАЎ у НЯМЕЧЧЫНЕ.

Выбары ў Сойм вольнага гораду Брэму далі соцыялістам значную перавагу. Атрымалі яны на 15,000 галасоў больш як у папярэдніх выбарах. Нямецкія правыя парты і дэмакраты пры гэтых выбарах утрацілі некальві мандатаў.

— 14 лістапада у трох гарадох Мэкленбургу адбыліся выбары да самаўрадаў. У г. Растану у гэтых выбарах сацыялісты атрымалі на 50 прац. галасоў больш як у папярэдніх выбарах. павялічваючы лічбу сваіх мандатаў з 19 да 26. Камуністы атрымалі 2 мандаты. Блёк правых партыяў утраціў 7 мандатаў.

## СПЫНЕНЬНЕ ПЕРАГЛЯДУ ПАШПАРТОЎ.

Практмкаваўшыся да гэтага часу перагляд асабістых дакумэнтаў і грошаў пры праездах праз землі вольнага гораду Гданску — спынены.

## КАНЕЦ СОЙМУ і СЭНАТУ.

Згодна констытуцыі 28 лістапада с. г. канчаецца кадэнцыя Сойму і Сэнату. У гэты дзень дэкрэтам п. Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай Польскай Сойм і Сэнат будуць распушчаны.

# НА ШЛЯХУ САМААРГАНІЗАЦЫІ.

Магутны ўздойм беларускай народнай рэвалюцыі быў задушаны дагодаю польска-расійскіх ірпэрыялістаў у Рызе. Беларускі народ хаця ім і быў прызнаны за роўнапраўнага суб'екта—у засадзе было прызнана права вольнага самаазначэньня,—але ў сапраўднасьці быў абернуты у аб'ект дагоды і ваенна-дыплёматычнага шахрайства. Беларусі была падзелена на часткі—устаноўлены „сфэры уплываў". Вызвальна-адраджэнскі рух беларускага народу прыдушаны і загнаны ў глыбокае пад'зямельле. Вастрогі Расеі і Польшчы запоўнены беларускімі рэволюцыянэрамі. Над Беларусьсю навісла цёмная хмара рэакцыі.

Адной з характэрных асаблівасьцяў сучаснага стану беларускага вызвальна-адраджэнскага руху—як гэта на паверхсе жыцьця выступае — поўнае ідэйнае раздарожжа, прымітывізм думкі і чыну інтэлігэнцыі, усіх гэных „старэйшых" і „модных" дзеячоў, якія выступаюць у адказных ролях ідэалёгаў, арганізатараў і павадыроў розных партыяў, саюзаў, гурткоў і аб'еднаньняў. У іх дзейнасьці першае, што кідаецца ў вочы — гэта поўная адсутнасьць рэалістычнага разуменьня вызвальна-адраджэнскага руху беларускага народу, поўная адсутнасьць гістарычнае пэрспэктывы. На ўсім ляжыць адзнака наіўна нудна-плаксівага рамантызму „вузкага нацыянальна-культурнага адраджэнізму, няпэўнасьці ў сябе, няверы ў арганізацыйную творчасьць працоўных грамадаў, нейкія прыпадковасьці, падзіву годнай безпрынцыпнасьці; а створаныя імі арганізацыі ад'значаюцца штучнасьцю і сэзоннасьцю.

І гэта зусім зразумела. Прычыны гэтае хваравлівае зьявы караняцца ў тых аб'ектыўных абставінах, у якіх сягоньня знаходзіцца прыгнечаная і паняволеная Беларусь.

Тыя абставіны і той сацыяльна-палітычны крызыс, які сягоньня перажываюць Польшча і ССРР., выносяць на паверх жыцьця розныя ўгадова-авантурніцкія элемэнты, якія прыстасоўваючыся да „власть имущих" цікуюць свае эгаістычныя мэты. Вызвальна-адраджэнская справа беларускага народу ёсьць для іх толькі спосаб для забязьпечаньня ўласных хлебных і кішанёвых інтарэсаў. — У аднальковай меры гэта можам бачыць як у нас, у Зах. Беларусі, гэтак і БСРР.

Прытычым некалькі прыкладаў.

У нас у Вільні, у старым беларускім месьце, істнуе арганізацыя пад гучным назовам „Беларуская Нацыянальная Рада". На чале гэтай арганізацыі стаіць пан Паўлюкевіч, былы расійскі манархіст, які рэклямуе сябе, як „ідэйнага" палянафіла. Выдае сваю часопісь „Беларускае Слова". — Якія мэты і заданьні гэтай арганізацыі, а ў апошнія часы і створанай ім партыі пад назовам: „Бел. Народн. Партыя".

— Аўтаномія Зах. Беларусі ў межах Рэчыпаспалітай Польскай. Далучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй, змаганьне з соцыялістычным навучаньнем. Чые бароніць інтарэсы? Польскай абшарніцкай буржуазіі. Хто проці соцыялізму?—Буржуазія: абшарнікі і капіталісты. Ці ёсьць беларуская нацыянальная буржуазія"—Не, няма. Няма беларускіх абшарнікаў і капіталістаў. Буржуазія ў Заходняй Беларусі ёсьць польская і жыдоўская. Абшарнік — паляк, банкір — жыд. Якія-ж іх адносіны да беларускага вызвальна-адраджэнскага руху. Яскрава нягатыўныя і нават варожыя. Польска-жыдоўская буржуазія варожа адносіцца да дзяржаўна-незалежніцкага імкненьня беларускіх прапоўных грамад. Гэтае варожае адношаньне дыктуецца яе клясовай зацікаўленасьцяй. — Незалежная беларуская дзяржава ня можа быць буржуазнай, а толькі працоўнай, соцыялістычнай. Гэта ясна. Беларуская нацыя ёсьць працоўная, нацыя—кляса—працоўных грамад. Вызвальна-адраджэнскі рух—соцыялістычны. Хто проці соцыялізму; гэтым самым і проці беларускага вызвальна-адраджэнскага руху.

Для нас ня будзе нават неўспадзеўкам калі польская ўлада абвесьціць аўтаномію Зах. Беларусі. Гэта зусім магчыма. Але гэта будзе толькі папяровае абвешчаньне, фармальная аўтаномія, а не сапраўдная аўтаномія „усходніх крэсаў" ціито „паўночна-ўсходніх земляў" Рэчыпаспалітай Польскай, як гэта праэктуюць польскія буржуазныя дэмакраты з вельмі спрыязьненыя з п. Паўлюкевічам, далёка яшчэ не забязьпечвае аўтаноміі Зах. Беларусі, як у запраўднага самаўраданьня беларускага народу. Уваход беларускай інтэлігэнцыі ў адміністрацыйны апарат польскага дзяржаўнага ўрадаваньня на беларускіх землях, ня зьменіць тых нацыянальна-сацыяльных адносінаў, якія сягоньня існуюць. Усё застанецца пастарому: беларускі народ у нізе сацыяльнае пірамiды, а польскія абшарнікі-магнаты на версе. Беларуская інтэлігэнцыя будзе абернута ў

чыноўніцкую бюракратыю, у наймітаў буржуазіі. Ці ж гэтага дамагаецца беларускі працоўны народ" — Не, гэтага могуць дамагацца сабе толькі паны Паўлюкевічы і тая пяталізьніцкая хэўра, якая гуртуецца каля часопісі "Беларускае Слова", а так сама і каля часопісі „Беларуская Хата", якая спыніла ўжо сваё жалюгоднае існаваньне. Але на ёй варта трохі спыніцца хоць трошкі зразумець псыхалёгію нашай зьбянтэжанай інтэлігэнцыі. У першым нумары, побач з партрэтам маршалка Пільсудзкага, у перадавым артытуле часопісі. «Стоячы бязумоўна на грунца Польскае дзяржаўнасьці, мы павінны адкрыта высказацца засупрацоўніцтва з польскай дэмакратыей у мэтах барацьбы з польскай рэакцыяй. Аднак, у іншым месцы чытаем горкае прызнаньне праўды: „з дасьведчаньня мінуўшчыны і досяняшняй сучаснасьці... трудна набрацца нейкага аптамізму". І ўсе ж такі мы хочам верыць! Уся гэтая кампанія хоча верыць, насільна хоча верыць у дэмакратычную канстытуцыю Польскае Рэспублікі, якая гварантуе усім грамадзянам рэспублікі роўныя палітычныя правы. Але разам з тым зазначаюць: выконваючы ўсе абавязкі, да ахвяраў з жыцьця і маемасьці ўключна, як грэмадзяне польскае дзяржавы, мы ня можам і ніколі ня згодзімся заставацца у сучасным палажэньні грамадзян другога ці трэцьцяга гатунку". Дык вось дэмакратычная канстытуцыя і роўныя правы.

У буржуазнай дэмакратыі пры сыстэме буржуазна-дэмакратычнага парлямэнтарызму, інакш і быць ня можа. Роўнасьць правоў і абавязкаў істнуе толькі на паперы. Гэта ёсьць фармальная дэмакратыя. Узапраўднае зьдзейсьненьне палітычнае роўнасьці не магчыма без сапраўднага зьдзейсьненьня роўнасьці соцыяльнай. Толькі працоўная дэмакратыя можа быць цьвёрдай цадвалінай роўнасьці палітычнай і нацыянальнай.

Бязмежнае жаданьне веры ў дэмакратычнасьць канстытуцыі Рэчыпаспалітай Польскай,—але ўжо без партрэту маршалка Пілсудзкага,—дапоўнена вераю ў наладжаньне добрых адносінаў" і ў „гармонію брацкага сужыцьця абедзьвух дэмакратыяў— беларускай і польскай"—якая чамусьці „ад нейкага часу папсавалася", з усей мастацкай прыгожасьцю выяўляецца і на на старонках часопісі Ф. Умястоўскага „Беларускі Дзень". Галоўнае што часопісь—дапоўніць вялікі недахоп у беларускім пісьменстве". Гіпэрбалічно сказана, але нічога—ня трудна дагадацца аб чым ідзе справа. Стварыць нешта-нейкае, а ў рэшце—нічога. Вось асноўны сэнс „праграмы" і „тактыкі" часопісі „Беларускі Дзень." Гэта ў адношаньні да Польшчы. А ў адношаньні да Расіі, паняволіўшай Усходнюю Беларусь—трымае кулак у кішэні.

„Бел. Дзень заклікае беларускую дэмократыю да супрацоўніцтва чамусьці толькі з польскай дэмакратыяй. Праўдзівы беларускі дэмакрат і рэвалюцыянэр жадаў бы также ж супрацоўніцтва з рускай, літоўскай і жыдоўскай дэмократыей. Але такое супрацоўніцтва дзеля "Б.Д." відаць не пажадана і кіраўнікі яго ня мыляюцца, бо праўдзівыя дэмакраты ня пойдуць у хэўру з „Б. Днём" як ня пойдзе за ім і беларускі народ. Народ шукае сабе іншых павадыроў, якія адчуваюць і разумеюць яго нядолю ясна і акрэсьлена ўказваюць шлях адраджэньня і вызваленьня.

Дзе гэтыя павадыры? Мо' у беларускай хрышчонай дэмакратыі? Мо' беларускія аўтарнікі на чале з ксяндзом А. Станкевічам маюць праграму нацыянальна-сацыяльнага вызваленьня беларускага народу.— Калі нехта так думае, той жорстка памыляецца. Вось аснаўныя засады іх хрышчонадэмакратычнае ідэалёгіі: „народ—гэта ёсьць маса, якая ляціць у тым керунку, куды яе пхнуць. Арыянтавацца, абдумаць задзяржацца яна ня можа. Такі рух канчаецца тагды, калі спаткае яшчэ большую сілу і спаткаўшы разлятаецца ў пыл". Гэтак піша „Беларуская Крыніца", орган Б. Х. Д.

Аднак куды-ж гэта пхнуць беларускі народ паны аўтарнікі? У адрознасьць ад іншых зьбянтэжаных інтэлігэнтаў яны стаяць, праўда, на грунце дзяржаўнай незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі, стаяць за дэмократыю, за перадачу ўсяе зямлі бяз выкупу сялянству—знача і касьцельнай, а ня толькі абшарніцкай. Узасадняюць гэта ня толькі з местаў «сьвятых», бацькоў каталіцкага касьцелу, што ім мала памагае, а ўжываюць нават і засаду прыроднага права, чым значна адыходзяць ад свайго касьцельнага навучаньня. У гэтым яны падыходзяць да соцыялістычнага навучаньня.—Але ці можа інтэлігэнт у ксядзоўскай сутане быць шчырым дэмократам?—Не, няможа гэтаму перашкаджае навучаньне каталіцкага пасьпеху. Засада дэмократыі і засада каталіцкага касьцелу, з яго аўтарытарнасьцю і дагматычнась-

цю, як кожнаму стане ясным і зразумелым. што ксёндз ня можа быць дэмократам. Гэта з поўнай яскравасьцю выяўляецца з уведзенай цытаты аб поглядзе беларускіх аўтарнікаў на нард, як на нейкага „папіхача“. Куды папхнем, туды ён і пойдзе. А каб сам народ мог думаць, арыентавацца, сваімі ўласнымі сіламі змагацца за лепшую долю — гэтага яны не дапушчаюць. Аўтарніцкая засада арганізацыі — зьверху ўніз. Дэмократызм — сапраўднае зьдзейсьненьне самаарганізацыі народу пярэчыць як духу навучаньня каталіцкага касьцёлу, гэтак і аўтарніцкай псыхалёгіі. Пэўна-ж ані адзін беларускі ксёндз, ня глядзечы на ўсю яго беларускасьць аж на сягоняшні дзень, рашуча не ставіцца проці таго, каб яму, маладому дзяцюку, цалавалі ў руку старыя, паважныя мужчыны і жанчыны. А што гэта, як не пережытак паншчыны, ганебнага прыгону як не паніжэньне чалавечай асабістасьці?!

Ня можа пахваліцца пасьлядоўнасьцю і цьвердасьцю ў абароне аснаўных засадаў свае праграмы і Беларускі „Сялянскі Саюз“. Нават больш таго. У сваей часопісі „Сялянская Ніва“ часта-густа палемізуе з сваей уласнай праграмай. І ўсё гэта робіцца не ў парадку дыскусыі ў адзеле „вольная трыбуна“, а ў перадавых артыкулах. І калі А. Більдзюкевіч піша—„дый сапраўды, кожнаму шчыраму і сьвядомаму беларусу ўжо трудна разабрацца, хто зьяўляецца здраднікам, а хто запраўды ідэйна працуе на беларускай адражэнскай ніве, дык што-ж казаць аб звычайным нашым селяніне!!. — то як-жа тады запраўды, селянін можа разабрацца ў тым чаго хоча Беларускі Сялянскі Саюз?

Адзін з аснаўных пунктаў праграмы кажа аб тым, што Б. С. С., стоячы на грунце самаадзначэньня народаў, лічыць сваім ідэалам незалежнасьць злучаных земляў беларускага народу. Аб тым кажэ ідэкляраі́ыя Беларускага Пасольскага Клюбу, адчытаная ў Польскім Сойме Рагуляю, адным з павадыроў Б. С. С. Але вось артыкул у часопісі „Natio“, які разам з тым быў надрукаваны і ў „Сялянскай Ніве“ бяз ніякіх заўважаньняў ад рэдакцыі, кажа аб нечым. Павадыр Б. С. С. Яреміч у гэтым артыкуле на цэлы сьвет заяўляе, што беларускі народ, у межах Рэчыпаспслітай Польскай, дамагаецца толькі „радыкальных рэформаў“ на грунце канстытуцыі, а не зьдзейсьненя права вольнага самаадзначэньня. І разьбярыся тут калі хочаш. — Правая, левая дзе старана, уліца, уліца—ты, знаць, пьяна“.

І гэта ў цэлым шэрагу пытаньняў. Калі так будзе і далей прадаўжацца, то марная надзея ў гэткі спосаб арганізаваньня, усьвядамленьня і ўзгадаваньня беларускіх сялянаў, парабкоў і беларускай селянскай інтэлігенцыі на грунце сялянскіх клясавых інтарэсаў і на грунце беларускай народнай культуры. Тыя беларускія інтэлігэнты, якія самі ня могуць разабрацца ў тым, што робіцца ў беларускім руху, ці-ж могуць яны быць павадырамі беларускага сялянства?!

(Працяг будзе).

# Крызыс Камінтэрну.

### Далейшы развал камуністычнае партыі.

Сацыяльны крызыс ў СССР прыняў ужо гэткія формы, што кожны дзень можна спадзявацца агульнага краху. Апазыцыя ў радох камуністычнае партыі гэтак пашырыла свае ўплывы, што Сталіну прыходзіцца ўжо рабіць рэвалюцыю, каб хоць часова ўтрымаць уладу ў сваіх руках. Пасьля выключэньня Троцкага і Зіноўева з Цэнтральнага Камітэту камуністычнае партыі, апошнія не спынілі сваей апазыцыйнай дзейнасьці, а пасьля апошняй прамовы Троцкага над гробам засталіўшагося апазыцыянэра, вядомага савецкага дыплёмата (падпісаўшага ў 1921 годзе Рыжскі Трактат, прып. Рэд.) Іоффэ, калі прамове Троцкага прыслухоўвалася шматтысячная таўпа работнікаў, Сталін зразумеў, што калі ня прыняць рашучых мераў, дык можа быць кепска і для яго. І вось, ня лічучыся з тым, што Троцкі, Зіноўеў і Каменеў зьяўляюцца найслаўнейшымі камуністычнымі дзеячамі, ня лічучыся з тым, што выключаць з партыі можа толькі агульны зьезд усяе партыі, Сталін зрабіў „нажым“ на верных яму сяброў Ц. К. кам. партыі і апошні пастанавіў выключыць Троцкага і Зіноўева з камуністычнай партыі.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што ігра ў Маскве пачалася, як гавораць „не на пацежэ“, і кожны дзень можа прынясьці неспадзеваныя весткі. Ясна, што апазыцыя не зложыць цяпер аружжа, а з другога боку, Сталін цяпер, пасьля выключэньня апазыцыі, спрабуе з ёй расправіцца пры помачы Г. П. У.

### Развал ідзе ў Камінтэрне.

Міжнародны пралетарыят ужо ня верыць у III Інтэрнацыянал і пачынае ад яго адкалывацца. Паводлуг апошніх вестак, выйшаў з Камінтэрну вядомы прадстаўнік аўстрыйскага пралетарыяту— Отто Брэй. Затое верных служакаў мае Сталін у беларускіх камуністых. Сярод усіх кампартыяў апазыцыянэры выключаюцца тысячамі, кожны нумар газэты прыносіць што-дня то новыя прозьвішчы, але сярод менскіх камуністых — апазыцыі няма. Відаць добра Сталін плаціць менскім таварышам, калі яны зачыняюць вочы на тое, што робіцца сярод работнікаў і сялян Беларусі і застаюцца вернападданымі маскоўскіх заправілаў.

# З жыцьця правінцыі.

Нам пішуць з Навагрудку.

Па ініцыятыве Камітэту пазашкольнай асьветы ў беларускай гімназіі ў Навагрудку адбылася вельмі цікавая лекцыя вярнуўшагося з Прагі Чэскае інжынера Малевіча на тэму: „Заданьні беларускае інтэлігенцыі“.

У гэтай лекціі дакладчык усебакова асьвятліў стан, у якім знаходзіцца беларускі рух у месцох Заходняе Беларусі тую сумную роль і страшэнную дэмаралізацыю беларускае інтэлігенцыі, якую ён прыехаўшы з Прагі убачыў.

Адзіны выхад з гэтага лектар бачыць у тым, каб беларуская інтэлігенцыя, замест таго каб займацца палітыканствам, пачала працаваць над падняцьцем беларускае культуры і эканамічнага стану краю. Лектар падкрэсьліў, што ў сучасны мамэнт запраўднае беларускае палітыкі няма, а ёсьць толькі „палітыканства“ і пэрадвыбарная барацьба за мандаты. І мы бачым, кажэ лектар, што перад выбарамі ў Сойм растуць, як грыбы, рожныя палітыканскія „партыі“, але здаровы беларускі арганізм зьніштожыць іх з твару беларускае зямлі, як здаровы арганізм чалавека творыць проціў таксінаў—антытаксіны, якія гэтыя труцізны забіваюць.

Пасьля дакладу, ня гледзячы на тое, што дыскусія пасьля лэкцыі не прадбачылася, невядома скуль і чаго вылез прыехаўшы з Вільні «дзяцька» Ф. Умястоўскі, які пачаў нясьці страшэнную бязглуздзіцу аб тым, што беларуская інтэлігенцыя не павінна ісьці з народам, але перад ім, каб народ цягнуць на павадку. У канцы ён абяцаў прыехаць яшчэ раз у Навагрудак і прачытаць свае... „Успаміны з Пэрсіі“, якіе ўсе даўно ўжо кінулі чытаць у „Белар. Дні“—дзеля няцікаўнасьці.

# Усячына.

### Перасяленьне Беларусаў з Меншчыны ў Сібір.

З Меншчыны, з 1 студня па 1 кастр. с. г. пераселяна на Ўрал, Сібір і Далёкі Ўсход 313 селянскіх сем'яў, якія налічваюць 1455 душ.

Акруговая перасяленчаская камісія пры Менапразы дапамагла за час 31 студзена да 1-га верасьня 137 жыдоўскіх сем'яў перасяліцца ў Крым дзе яны ў Джаньні і Еўпаторыі атрымалі надзелы зямлі.

### З камуністычнага „раю“.

Цэнтральны камітэт узаемадапамогі Б.С.С.Р. дае весткі што ў Савецкай Беларусі, апрача Гомельшчыны маецца 110,793 бедняцкіх гаспадароў з якіх 34,525 гаспадароў ня маюць коней. Дзеля пражыцьця ім патрэбна сталая дапамога. Калі далучыць да гэтага Гомельшчыну дык цыфра гэта яшчэ павялічыцца.

Як відаць направа бедняцкае сельскае гаспадаркі не ляжыць у аснове пралетарскае дыктатуры, бо аж па 10 гадох ўлады беднякі, як відаць, яшчэ больш стогнуць.

### Француска-грэцкая дагода.

Французкі ўрад, як інфармуюць з Парыжа, мае замер заключыць г грэцкім ўрадам дагавор, падобны да дагавору з Югаславіей. Французкая прэса адзначае імкненьне грэцкіх урадавых колаў да заключэньня прыязных і арбітражных дагавораў ня толькі з Францыей але і з Югаславіей. Брыян заявіў што французка-грэцкі дагавор зьяўляецца фундамэнтам балканскага Лёкарно, якое ў хуткім часе будзе зьдзейснена.

*Таварышы сяляне і работнікі!*

*Падтрымоўвайце сваю газэту. Чытайце самі, довайце чытаць другім, зьбірайце грошавыя складкі на газэтны фонд. Сабраныя грошы трэба перасылаць у Рэдакцыю.*

Выд. ЯЗЭП МАМОНЬКА. Бел. Друк. ім. Ф. Скарыны, Вільня, Людвісарска 1. Рэдактар Грыдзюшка.

0 61723
BIBLJOTEKA w Wilnie im. Wróblewskich